**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.09, 20.12, 14.03;
Віцебск — 5.57, 20.04, 14.07;
Магілёў — 5.59, 20.01, 14.02;
Гомель — 6.01, 19.53, 13.52;
Гродна — 6.27, 20.24, 13.57;
Брэст — 6.29, 20.24, 13.55.

**МЕСЯЦ:**
Маладзік
28 жніўня

**ІМЯНІНЫ:**
Успенне (Спажа).
Аўгусціны, Бышаміра.



# ЗВЯЗДА

28 ЖНІЎНЯ 1992 г.
пятніца, № 173 (21951)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


## РОЗГАЛАС

### «ПОЛЕ ЎРАЧЫСТА»

Сёння — Прачыстая («Спажа», Успенне Божай Маці) па праваслаўным царкоўным календары. Гэта самае значнае свята ў канцы лета, і асабліва шануецца яно менавіта ў нашым краі. У яго гонар на Беларусі пабудавана і асвечана вельмі многа храмаў, у тым ліку Успенскі сабор у Жыровічах, Лаўрышаўская царква на Навагрудчыне (яна вядзе свой адлік з 1777 года). Тут і ў іншых месцах будуць праведзены ўрачыстыя богаслужэнні з хрэсным ходам.

Царкоўную назву «Успенне» ў народзе тлумачаць яшчэ і тым, што да гэтага дня паспелі ўжо розныя плады, а таму Прачыстая адзначаецца таксама і як свята ўраджаю, падвядзенне вынікаў працы селяніна: «На Прачысту — поле чыста» (у некаторых мясцінах «поле ўрачыста...», «Спажа — хлеба дзяжа». Калі ж каму ўдавалася да свята не толькі сабраць збажыну, але і ўзараць пожню, падрыхтаваць глебу да будучага ўраджаю, то такога хлебароба чакаў налета яшчэ большы плён у працы: «Да свята араць — лішнюю капу нажаць». Адразу ж пасля свята пачынаецца сяўба азімых, да якой трэба быць падрыхтаваным, каб быць з хлебам: «Пытаецца Успенне, ці гатова насенне?..»

### РАБОЧЫ КАНТРОЛЬ? ПРЭЧ АДСЮЛЬ!

РАГАЧОЎ. Пляскалі ў ладкі дэпутатам мясцовага гарсавета работнікі гандлю. Асабліва тыя, хто любіць абважваць і аблічваць пакупнікоў. За іх «мудрае» рашэнне: скасаваць рабочы кантроль за дзейнасцю ў сферы гандлю. Падставай для яго, відаць, стала імкненне да свабоды ва ўсім, надзея на рост самасвядомасці прадаўцоў ва ўмовах пераходу да рынку. Праўда, рашэнне гэтае не вітаюць работнікі аддзела барацьбы з эканамічнай злачыннасцю ГРАУС і дзяржгандальінспекцыі, якім рабочы кантроль хоць у нейкай ступені дапамагаў наводзіць парадак у гандлі. За што прадаўцы не пляскаюць у ладкі і міліцыі, і інспекцыі.

**У. ПЕРНІКАЎ.**

### НАШАГА ПАЛКУ ПАМЕНШАЛА

МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. Паводле даных абласнога ўпраўлення статыстыкі, за першую палову 1992 года ў вобласці нарадзілася 7.627 дзяцей, а ўсяго памерла 7.811 чалавек. Адмоўны натуральны прырост насельніцтва назіраецца практычна ва ўсіх сельскіх раёнах вобласці і ў горадзе Крычаве.

### ЗІМОЙ У МАГІЛЁВЕ ПАВІННА БЫЦЬ ЦЁПЛА

**МАГІЛЁЎ. Магілёўскі аблвыканком заключыў гандлёва-эканамічнае пагадненне з уладамі горада Паўладара, што ў Казахстане, згодна з якім магіляўчане атрымаюць 40 тысяч тон вугалю па 1.100 рублёў кожная, 2.500 тон мазуту, 1.500 тон бензіну, дызельнае паліва, каўстычную соду і дзесяткі тон солі — усяго на 30 мільёнаў рублёў.**

**А з Беларусі ў Казахстан на гэтую ж суму накіруюцца тавары народнага спажывання і прамысловая прадукцыя, вырабляемая ў вобласці. Дзякуючы двухбаковаму пагадненню закуплена таксама сорак тысяч тон вугалю на шахце «Інцінская» ў Комі. Пошукам такіх далёкіх партнёраў магіляўчане заняліся не ад лёгкага жыцця — справа ў тым, што даўнія партнёры з Данбаса зараз «заламалі» за свой вугаль цану пяць тысяч рублёў за тону.**

### У АБЛВЫКАНКОМ НА... ВЯЧЭРУ

ВІЦЕБСК. Ці можна сёння пражыць на 1.280 рублёў у месяц, а тым больш пракарміць сям'ю. Зразумела, можна, але, згадзіцеся, толькі са скрыпам. Работнікам жа сталовай Віцебскага аблвыканкома надакучыла «скрыпець», і вырашылі яны пацвердзіць словы знакамітай прымаўкі: «Хочаш жыць — умей круціцца». Як вынік — аб'ява, што ўпрыгожвае дзверы аблвыканкомаўскай сталовай, якая паведамляе: тут у выхадныя дні можна заказаць урачыстыя вечары. Хаця расцэнкі на такія мерапрыемствы і павялічваюцца з 60 да 80 працэнтаў, работнікі сталовай спадзяюцца, што ад жадаючых адзначыць урачыстасць у будынку аблвыканкома не будзе адбою.

### 10 ГЭТА НЕ 600

**ШЧУЧЫН. Звыш 600 грамадзян, якія страцілі работу, ужо звярнуліся ў мясцовы цэнтр занятасці. Дзякуючы адладжанай дзейнасці Цэнтра большасць з беспрацоўных атрымалі новыя, задавальняючыя іх рабочыя месцы. А вось 10 шчучынцаў афіцыяльна прызнаны беспрацоўнымі.**

### Выратоўваюць прамыя сувязі

МІНСК. Ва ўмовах цяжкай эканамічнай сітуацыі пакуль яшчэ адносна моцна трымаецца на плаве гігант беларускай індустрыі— Мінскі трактарны завод. Так, за 7 месяцаў бягучага года аб'яднанне выканала практычна ўсе дагаворныя абавязацельствы. Прычына такой стабільнасці — у падтрыманні прамых сувязей амаль з паўтысячай расійскіх прадпрыемстваў і поспех прадукцыі на міжнародным рынку.

### Справы пасольскія

МІНСК. У сярэдзіне верасня бягучага года чакаецца афіцыяльнае ўручэнне Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіславу Шушкевічу вярыцельных грамат Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Расійскай Федэрацыі Ігарам Сапрыкіным. Дарэчы, прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын накіраваў паслоў практычна ва ўсе краіны СНД, прычым зарплату ў валюце будзе атрымліваць пакуль толькі пасол на Украіне, астатнія — у рублях. Паводле паведамленняў маскоўскіх газет, прыкладны аклад паслоў Расіі ў іншых рэспубліках СНД складае каля 14 тысяч рублёў.

### Зладзеі «засвяціліся»

Як паведамлялася ўжо, у вытворчым аб'яднанні «Граніт» у пасёлку Мікашэвічы (Брэсцкая вобласць) быў здзейснены крадзеж радыеактыўных прыбораў, якія ўтрымліваюць ізатопы цэзію-137.

Міліцыі ўдалося затрымаць некалькі чалавек, якія ўдзельнічалі ў крадзяжы, і знайсці выкрадзенае. Матывы злачынства пакуль што невядомыя. Зразумела пакуль што — простыя злодзеі не будзе звязвацца з прыборам радыеактыўнасцю 2 кюры.

**БелаПАН.**

# «Гараць цяпер толькі тарфянікі»

**На пытанні карэспандэнта «Звязды» адказвае начальнік штаба грамадзянскай абароны генерал-лейтэнант Анатоль ПАНАМАРОЎ**

**— Яшчэ зусім нядаўна ад паведамленняў аб чарговым пажары на тэрыторыі рэспублікі патыхала нейкай безвыходнасцю і бездапаможнасцю перад неўтаймаваным агнём.**

— Гаварыць, што сітуацыя з пажарамі не кантралюецца, нельга. Да сярэдзіны верасня думаем патушыць найбольш буйныя пажары.

Тое, што мы прагназіравалі сітуацыю і падышлі да яе падрыхтаванымі, несумненна. Больш таго, мы старанна вывучылі вопыт барацьбы з пажарамі ў Маскоўскай вобласці ў 1972 годзе (там таксама гарэлі тарфянікі) і стварылі свае трубаправодныя падраздзяленні, якія прыйшліся вельмі дарэчы на беларускіх палаючых тарфяніках.

Увогуле, 3 жніўня ўпершыню за многія гады была запушчана ў дзеянне Дзяржаўная сістэма па папярэджваннях і дзеяннях у надзвычайных сітуацыях у рэжыме надзвычайнага функцыяніравання. Гэта кругласутачнае дзяжурства, арганізацыя паветранай і наземнай разведкі, збор даных абстаноўкі, мабілізацыя ўсіх тэхнічных сродкаў для тушэння пажараў, а таксама каардынацыя ўсіх задзейнічаных службаў — спецыяльных падраздзяленняў грамадзянскай абароны, асабістага саставу Міністэрства абароны, пажарнай аховы МУС, а таксама кіраўнікоў тых рэгіёнаў, на тэрыторыі якіх ёсць ачагі пажараў.

**— У «Звяздзе» праходзілі, і не раз, скаргі пажарнікаў на тое, што некаторыя патрабуюць аплаты за тэхніку для тушэння пажараў і ўвогуле пасіўна сябе паводзяць у экстрэмальнай абстаноўцы.**

— Такія выпадкі былі ў самым пачатку «пажарнага» сезона. Зараз сітуацыя кардынальна змянілася. Саветам Міністраў распрацавана спецыяльная праграма для Камісіі па надзвычайных сітуацыях, якую ўзначальвае Іван Кенік. Цяпер яго замяшчае Станіслаў Брыль. Дык вось, там прадугледжана праца і для пракуратуры, каб яна прыцягвала да адказнасці службовых асоб, якія належным чынам не ставяцца да тушэння пажараў на сваёй тэрыторыі. І мушу запэўніць, што ніякіх непаразуменняў з кіраўнікамі гаспадарак і рэгіёнаў, дзе гараць тарфянікі, у нас няма. Грошы за тэхніку і паліва, якія скарыстоўваюцца пры тушэнні пажараў, будуць выплачвацца гаспадаркам пазней Міністэрствам лясной гаспадаркі. Сродкі яму на гэтыя мэты ўжо выдаткаваны.

**— Прыемна чуць — сітуацыя пад кантролем. І ўсё ж, што канкрэтна вы кантралюеце?**

— На сённяшні дзень маем 223 ачагі пажараў на трох тысячах гектараў. Лясных пажараў няма, гараць толькі тарфянікі. Самы буйны ачаг цяпер у Смалявіцкім раёне, куды накіравана спецыяльная брыгада грамадзянскай абароны, якая дапамагае мясцовым пажарным і ваенным змагацца з агнём.

Усе пажары лакалізаваны, і іх тэрыторыя няспынна змяншаецца. Для параўнання: у разгар пажараў мы мелі 7 тысяч гектараў плошчаў, падуладных агню. Але цяпер мы не толькі на роўных «размаўляем» з апошнім, а поўнасцю ўжо «разабраліся» з Гродзенскай вобласцю, якая лічылася да нядаўняга часу самай небяспечнай у пажарных адносінах.

Працягваюць нас непакоіць пажары ў Смалявіцкім, Мінскім, Уздзенскім раёнах Мінскай вобласці, Ляхавіцкім, Ганцавіцкім, Пінскім, Лунінецкім — Брэсцкай, Быхаўскім, Асіповіцкім, Магілёўскай, Добрушскім, Брагінскім, Хойніцкім — Гомельскай.

Тушэнне пажараў працягваецца ў экстрэмальным рэжыме. Напрыклад, трубы пракладваюцца адпаведнымі падраздзяленнямі да дзесяці кіламетраў. Праводзіцца штодзённая як наземная, так і паветраная разведка. Для большай эфектыўнасці пажаратушэння вымушаны былі перанесці адкрыццё палявання на больш позні тэрміны, а таксама часова забараніць уезд у лес прыватным транспартным сродкам, ад якіх можа ляцець іскра, ды і ўвогуле пікнікі ў лесе пакуль што вельмі небяспечныя.

**— Некалькі слоў аб ахвярах пажараў і матэрыяльных стратах ад іх.**

— У агні загінулі дзве жанчыны з вёскі Калюга Глускага раёна Магілёўскай вобласці. Падлікамі матэрыяльнага ўрону займаецца спецыяльная міжведамасная камісія. Пакуль што магу сказаць толькі адно: такога «пажарнага» лета старажылы не памятаюць з пачатку стагоддзя.

Сярод тых, хто займаецца тушэннем пажараў, а гэта каля трох тысяч чалавек, загінуўшых няма. Ёсць толькі траўміраваныя.

**— Пажары сёлета захапілі амаль увесь былы Саюз. Як выглядаем у параўнанні з іншымі рэгіёнамі ў гэтых адносінах?**

— Па маштабнасці пажараў мы можам параўнаць сябе з Маскоўскай вобласцю, але там надзвычайныя меры па арганізацыі тушэння былі прыняты значна пазней, таму і сітуацыя больш складаная.

Пра нашу рэспубліку магу дадаць: рашучыя дзеянні ўрада адыгралі значную ролю ў барацьбе з агнём.

**Гутарыў Аляксандр КОКТЫШ.**



### ВОСТРАЯ СІТУАЦЫЯ

**У рэспубліцы па-ранейшаму лютуюць пажары, якія выкліканы засухай і людской беспечнасцю. Не абмінуў агонь і землі калгаса імя Калініна Лунінецкага раёна. Пажар, які прыйшоў сюды з зямель Пінскага раёна, бушуе на сенажацях ва ўрочышчы ракі Бобрык. Калгаснікі змагаюцца са стыхіяй: у цыстэрнах падвозіцца вада, пераворваюцца тарфянікі, манціруецца помпавая станцыя, каб падняць узровень вады ў меліярацыйных каналах і тым самым наблізіць ваду да ачагоў загарання. Калі рабіўся здымак, на дапамогу вяскоўцам спяшалася ўжо вайсковае падраздзяленне. Агульнымі намаганнямі агонь павінен быць спынены, хоць пажары на тарфяніках вельмі каварныя.**

**НА ЗДЫМКУ:** стомленая сонцам зямля.

Фота **Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.**
**БЕЛІНФАРМ.**

### ДА ЎВАГІ КУРЦОЎ

ГРОДНА. Ад працуючых на мясцовай тытунёвай фабрыцы наш карэспандэнт пачуў аб тым, што з-за недахвату адпаведнай паперы цыгарэты і папяросы гродзенскай вытворчасці хутка будуць выпускацца не ў маленькіх пачках, а ў вялізных каробках, і прычым прадавацца паштучна. На самі ж тытунёвыя вырабы паперы хапае.



Вялікія чэргі тых, хто хоча ўладкавацца на работу, у Салігорскім цэнтры занятасці насельніцтва. Асабліва шмат тут моладзі. А між тым, як сказаў у гутарцы з карэспандэнтам «Радыёфакта» выконваючы абавязкі дырэктара цэнтра В. Булаеў, сітуацыя з працаўладкаваннем у горадзе вельмі складаная, бо адсутнічаюць заяўкі на вакансіі, выслабаненыя на прадпрыемствах у сувязі са звальненнем асоб па ўласнаму жаданню. Колькасць беспрацоўных павялічылася ў Салігорску амаль у два разы. Што асабліва хвалюе: свабодных месц для маладых спецыялістаў і непаўналетніх у горадзе практычна няма.

***

**Як вядома, у Расіі для Герояў Сацыялістычнай Працы адменены ўсе льготы. Ну, а ў пінскім калгасе імя Горкага сход сялян прымае адваротнае рашэнне. Дарэчы, тут толькі адзін Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня праўлення В. М. Гарошка. Але калгаснікаў можна зразумець. Калгас, нібы ўцёс, вытрымлівае разбуральныя хвалі перабудовы. Да «драўлянага» рубля з казны на «працадзень» вяскоўцы атрымліваюць сена, салому, збожжа, агародніну, бульбу, ялавічыну, свініну. Наперадзе выдача цукру, мёду, рыбы і нават аленіны з уласнай лясной гаспадаркі. Вядома ж, што ў гэтым астраўку вясковага камунізму калгаснікі не толькі галасуюць за льготы для свайго героя-старшыні, але і будуць маліцца за яго здароўе.**

***

Прыемнае падарожжа чакае 31 жніўня 80 дзяцей з Беларусі, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС. Урад Злучаных Штатаў садзейнічае бельгійскай арганізацыі па перавозцы маленькіх беларусаў ад 5 да 13 гадоў у Брусель на самалёце ваенна-паветраных сіл ЗША. Дзеці будуць месяц гасціць у бельгійцаў, а ў канцы верасня зноў жа з дапамогай ваенных лётчыкаў Амерыкі вернуцца дамоў. Агульная колькасць дзяцей, што атрымаюць дапамогу ў рамках гэтай праграмы, складзе 725 чалавек.

***

**З 28 па 30 жніўня ў Брэсце пройдзе ўрачыстае асвячэнне касцёла Узнясення святога крыжа, а таксама новых званоў пад назвай «Іаан Павел ІІ» і «Епіскап Зігмунд Ладзінскі». Адначасова ў касцёл будзе перанесены цудадзейны лік Маці Боскай-Берасценьскай.**

### АРЫЕНЦІР НА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Крыху больш як два месяцы назад з візітам ў Швейцарыі знаходзілася ўрадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй Савета Міністраў В. Кебічам. Значнае месца ў праграме знаходжання заняло ўстанаўленне кантактаў з прадстаўнікамі дзелавых колаў аб магчымых напрамках двухбаковага супрацоўніцтва. Цікавасць у членаў дэлегацыі выклікалі прапановы міжнароднай карпарацыі «Нестле», якая прадставіла рад праектаў рэарганізацыі прамысловасці па вытворчасці экалагічна чыстых прадуктаў дзіцячага харчавання, такіх неабходных нам сёння.

Пацвярджаючы свае сур'ёзныя намеры мець з намі партнёрскія адносіны, гэтымі днямі прыбылі ў Мінск генеральны дырэктар карпарацыі па экспарту С. Хок і адказны фірмы за ўсходнееўрапейскі рэгіён В. Арцімовіч.

Гутарку з імі правёў В. Кебіч. Дасягнута дагаворанасць аб стварэнні ў Беларусі на радзе прадпрыемстваў сумесных вытворчасцей па вырабу дзіцячага харчавання. А пакуль «Нестле» гатова пастаўляць нам у рэспубліку розныя пажыўныя сумесі, дзіцячае харчаванне ў шкляных слоіках, хуткарастваральны малочны парашок і многія іншыя прадукты, якіх не хапае. Тым больш, што на іх набыццё камісія Еўрапейскага супольніцтва (ЕЭС) выдзеліла нядаўна Рэспубліцы Беларусь адпаведную пазыку.

Госці са Швейцарыі сустрэліся з міністрам замежных спраў Беларусі П. Краўчанкам, кіраўніцтвам Мінсельгаспрода, Міністэрства аховы здароўя, Знешэканомбанка, Дзяржкамчарнобыля.

**Уладзімір ДЗЕШКАВЕЦ,**
**прэс-служба Савета Міністраў РБ — БЕЛІНФАРМ.**

### МОРА ПАД... КРЫЧАВАМ

Непадалёк ад Крычава на глыбіні 420 метраў знойдзена мінеральная вада. І там жа — марская вада, прыдатная для лячэбных працэдур.

Паводле заключэнняў спецыялістаў, мінеральная вада па сваіх якасцях прыгодная для лячэння органаў стрававання. А марская — для лячэння радыкулітаў, трамбозаў, вянозных захворванняў. У хуткім часе мінеральная вада з'явіцца ў магазінах. А на месцы свідравіны будзе пабудаваны лячэбны корпус.

**БелаПАН.**




### ЯК ПЕРАМАГЧЫ СТРЭС

## Практычная псіхалогія

5. Выберыце хобі, кантрастнае з вашымі асноўнымі заняткамі. Калі на рабоце вы рашаеце тэхнічныя задачы, дома займіцеся пакаёвымі кветкамі ці якім-небудзь рамяством.

Калі на рабоце вы праводзіце ўвесь дзень у памяшканні, то вам добра было б завесці сабаку або садовы ўчастак.

6. Хоць бы адзін від дзейнасці павінен быць звязаны з сям'ёй ці з сябрамі. Вам неабходна адрывацца ад калег і не аддаляцца ад інтарэсаў сям'і.

7. Забараніце сабе адчуваць віну, калі вы не заняты работай. Гэта можа быць самы важны крок сярод усіх памянёных.

Калі вы аказаліся ў крызіснай сітуацыі, то хутчэй за ўсё вы бачыце свет зусім не ў ружовых колерах. Чалавек, які перажывае сур'ёзны ўдар лёсу, аказваецца ў эмацыянальнай беззданi, але памятайце: вы там не адзінокія.

Стрэс, які адчувае ваша псіхіка, прама прапарцыянальны вашым адносінам да крызісу — успрымаеце вы яго як пагрозу ці як выклік лёсу, як новую магчымасць для сябе ці як білет у пекла. Вось некаторыя навыкі, якія дазволяць вам перажыць сур'ёзнае выпрабаванне з як мага меншымі стратамі.

Пастарайцеся глядзець на будучыню ў станоўчым святле. Хоць бы нядоўга ўспамінайце, як вы сябе адчувалі, калі ўсё было добра. Калі людзі ўяўляюць сябе ў





пэўнай сітуацыі, з'яўляюцца звязаныя з ёю адчуванні.

Вучыцеся прыёмам фізічнага расслаблення. Калі ваша цела расслаблена, то і псіхіка не можа быць у напружаным стане.

Пастарайцеся быць рэалістычней, калі вы апісваеце сабе або блізкім сітуацыю, у якой апынуліся. Пазбягайце такіх эмацыянальна афарбаваных слоў, як «ніколі», «заўсёды», «нянавісць».

Жывіце сённяшнім днём. Устанавіце мэты на сёння, не патрабуйце вельмі многага ад сябе.

Не дазваляйце сабе патануць у шкадаванні да сябе, не адмаўляйцеся ад дапамогі. Каханне, дружба і сацыяльная дапамога — магутныя інструменты ў барацьбе са стрэсам.

Памятайце, што вы не адзінокія. Тое, што вы адчуваеце цяпер, іншыя перанеслі — і яны выжылі. Так будзе і з вамі.

### СМАЧНА ЕСЦІ!

## Абед з агародніны

**Кабачкі, фаршыраваныя агароднінай, у таматным соўсе. Іх можна падаваць адразу, непасрэдна на стол, а можна нарыхтаваць і ў запас. Робіцца гэта так:**

Зяленіва пятрушкі (10 г) мыюць, даюць сцячы вадзе, наразаюць кавалачкамі. Цыбулю (200 г) рэжуць і абсмажваюць у 100 г алею да залацістага колеру.

Моркву (300 г) і корань пятрушкі (30 г) мыюць, ачышчаюць ад скуркі, другі раз мыюць, даюць сцячы вадзе, наразаюць, мыюць, кладуць у казанок, дабаўляюць 50 г алею, тушаць, памешваючы, да паўгатовасці.

Спелыя таматы (700 г) ачышчаюць ад пладаножак, мыюць, даюць сцячы вадзе,



праціраюць на тарцы ці прапускаюць праз мясарубку, потым зліваюць у эмаліраваную каструлю, ставяць на агонь і кіпяцяць 15 хвілін. Дабаўляюць 2 чайныя лыжкі солі, 1,5—2 сталовыя лыжкі цукру, 2 сталовыя лыжкі 5-працэнтнага воцату, 0,5 г молатага духмянага перцу і кіпяцяць яшчэ 10 хвілін.

У падрыхтаваныя слоікі ўліваюць пракіпячоны і астуджаны да 70 градусаў алей (1 сталовая лыжка на слоік ёмістасцю 0,5 л, 2 сталовыя лыжкі — 1 л).

Абсмажаную цыбулю, тушаныя моркву і корань пятрушкі змешваюць з нарэзаным зяленівам. Атрыманай гарачай масай фаршыруюць кабачкі, кладуць іх у падрыхтаваныя слоікі і заліваюць гарачай таматнай залівкай на 2 см ніжэй за горлачка. Накрыўшы слоікі падрыхтаванымі накрыўкамі, ставяць іх у каструлю з падагрэтай вадой, даводзяць да кіпення і праграваюць на працягу 25 хвілін, пры слабым кіпенні вады. Пасля прагрэву слоікі неадкладна закаркоўваюць, правяраюць герметычнасць, устанаўліваюць заціскі, зноў кладуць у каструлю і стэрылізуюць у кіпячай вадзе: паўлітровыя слоікі — 60 хвілін, літровыя — 70 хвілін. Ахалоджванне — паветранае. Заціскі могуць быць зняты толькі пасля стэрылізацыі.

Пры адсутнасці заціскаў, каб пазбегнуць страт алею пры стэрылізацыі слоіка ёмістасцю 0,5 л трэба напаўняць на 2 см, а ёмістасцю 1 л — на 2,5 см ніжэй за верх горлачка і стэрылізаваць першыя — 75 хвілін, другія — 90 хвілін. Пасля стэрылізацыі неадкладна закаркоўваюць.

### МАРКОЎНЫ СОК З ВЯРШКАМІ.

Ачышчаную моркву нацерці на дробнай тарцы, адціснуць праз марлю. Атрыманы сок злучыць з вяршкамі. Падаваць на стол астуджаным, але не халодным.

На 300 г морквы — 150 г вяршкоў, цукар — па смаку.

### ЯЕЧНЯ З БУЛЬБЯНЫМ ПЮРЭ.

Пюрэ (сярэдняй гушчыні) выкласці на патэльню, змазаную маслам, зраўнаваць, пасыпаць нацёртым сырам, спырснуць маслам і запячы ў духоўцы да ўтварэння румянай скарынкі. На паверхні запечанай бульбы



лыжачкай зрабіць паглыбленні па колькасці ўзятых яек і выпусціць у кожнае паглыбленне цэлае сырое яйка, пасля чаго зноў паставіць патэльню на 3 хвіліны ў гарачую духоўку. Яечню падаваць на стол на патэльні.

На 500 г бульбы — 2 ст. лыжкі сметанковага масла, 1/2 шклянкі малака, 200 г нацёртага сыру, 6 яек.

### ІКРА З БУРАКОЎ.

Буракі спячы, пачысціць і нацерці на тарцы. Змяшаць з нацёртай на тарцы рэпчатай цыбуляй. Пасаліць і папярчыць па смаку. Дабавіць цукровы пясок, тамат, перамяшаць, выкласці на патэльню, смажыць на павольным агні на алеі 30 хвілін.

На 500 г буракоў — 1 цыбуліна, 1 чайная лыжка цукру, 2 ст. лыжкі тамату, 3 ст. лыжкі алею, соль і перац — па смаку.

### МОРКВА З ФАСОЛЯЙ.

Мяса зварыць да мяккасці ў невялікай колькасці вады, выцягнуць, парэзаць дробнымі кавалачкамі, апусціць у той жа булён, дабавіць нарэзаную моркву і тушыць пры закрытай накрыўцы. Фасолю зварыць асобна ў злёгку падсоленай вадзе з дабаўленнем маянэзу, змяшаць з мясам і морквай, давесці да кіпення.

600 г морквы, 150 г мяса, 300 г белай фасолі, 1 чайная лыжка маянэзу, соль — па смаку.

### СУП З ЦЫБУЛІ.

Дробна нарэзаную цыбулю абсмажыць у тлушчы і пасыпаць пры памешванні мукой. Пасаліць, дабавіць кмен, развесці кіпячым булёнам ці разбаўленым малаком і варыць пры слабым кіпенні 20—30 хвілін. Пасля заканчэння варкі дабавіць перац і пятрушку з кропам.

500 г рэпчатай цыбулі, 50 г сметанковага масла ці маргарыну, 2 ст. лыжкі мукі, соль, 1/2 чайнай лыжкі кмену, 1 л булёну ці вады, 1/4 л малака, 1/2 чайнай лыжкі чырвонага перцу, пасечанае зяленіва пятрушкі і кропу.

